

№ 46 (207)

Снежань 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:



## 9 снежня – дзень нараджэння Максіма



(Працяг тэмы – на стар. 2)

### Публікацыя закранула чытача

*Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Краязнаўчай газеты»!*

*У № 40 вашага выдання быў надрукаваны мой матэрыял «Мянушка». Дзякую вам. Мне здаецца, тэма, якую ўзняла газета, вельмі цікавая, бо няма ў нас на Беларусі мясціны, дзе б вясковец не меў другога прозвішча. Мянушка заўсёды вельмі трапна і ярка адлюстроўвала натуру чалавека, рысы яго характару, аблічча. Хочацца спадзявацца, што чытачы адгукнуцца і раскажуць шмат пазнавальнага і цікавага.*

*Але сёння я пішу вам не толькі з гэтай нагоды.*

*Яшчэ большую падзяку і ад сябе, і, думаю, ад многіх вашых чытачоў хочацца выказаць за матэрыял Б. Бароўскага, змешчаны ў №№ 29–36, – «Ураджэнцы Беларусі ў арміі Андэрса». Я разумею, што працу такога аб'ёму, хоць і ў скарочаным варыянце, надрукаваць было вельмі няпроста, але вы знайшлі такую магчымасць, палічыўшы, што мы павінны гэта ведаць.*

*Яшчэ адна старонка нашай гісторыі, дзякуючы такім апантаным, нераўнадушным людзям, як навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея Б. Бароўскі, па-сапраўднаму адкрывае заслону таямніцы.*

*Што я ведала прыкладна дзесяцігоддзе таму пра ўдзел беларусаў у польскіх вайсковых фармаваннях? Трохі чула пра дывізію імя Т. Касцюшкі, яе першы бой з фашыстамі пад в. Леніна, ды яшчэ назва Монтэ-Касіна была на слыху. Генерал Андэрс, «андэрсаўцы» – асацыяваліся тады як здраднік, здраднікі ці штосьці падобнае.*

*У апошнія гады гэтая тэма пачала з'яўляцца на старонках розных выданняў трохі часцей. Знікала тая варожасць у адносінах да суайчыннікаў, што ваявалі супраць фашыстаў у складзе арміі Андэрса. І ўсё ж невялікіх тых публікацый было недастаткова.*

*Мне здаецца, Б. Бароўскі сваёй працай змястоўна і глыбака паказаў нам ролю і месца вайсковых злучэнняў Андэрса ў Другой сусветнай вайне. І ў першую чаргу – ролю беларусаў у арміі генерала, якія складалі ў ёй значную частку.*

*Па загадзе сэрца аўтар даследавання збіраў усе вядомыя і невядомыя факты і матэрыялы, адшукваў і запісваў успаміны непасрэдных удзельнікаў, спяшаючыся, стараючыся не спазніцца. Час няўмольны і, на жаль, з кожным днём сведак тых падзей становіцца ўсё менш.*

*Дзякуючы гэтай працы сёння мы можам ушанаваць памяць суайчыннікаў, якія ў далёкай Італіі набліжалі Вялікую Перамогу. Многія з іх прайшлі праз турмы і сталінскія гулагі, і, канечне, без сімпатыі адносіліся да СССР, але высокае імя САЛДАТА ў барацьбе з агульным ворагам беларусы не зганьбілі нідзе.*

*Шкада толькі, што прызнанне прыйшло да іх запозна. Бо і пасля вайны тым, хто вярнуўся на Радзіму, прыйшлося яшчэ многа чаго вынесці і перажыць.*

*Гавораць: вайна прадаўжаецца, пакуль не пахаваны ўсе загінулыя на ёй салдаты. Гісторыя роднага краю таксама не поўная, пакуль кожная яе старонка не перагорнута і не пераасэнсавана людзьмі і часам.*

*З павагай –*
***Лідзія ГАРДЫНЕЦ,***
***г. Маладзечна***



### Жыву ў Беларусі – і тым ганаруся

# ...Шчодрая наша душа!

***Пра гэта можна было пераканацца на VIII адкрытым гарадскім фестывалі нацыянальных культур «Сонечны птах», які адбыўся ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі. Пры адкрыцці адароных навучэнцаў мінскіх школьных установ, тых, хто займаецца ў названым палацы (такіх каля 10 тысяч у 800 розных гуртках), іх мастацкіх кіраўнікоў, гасцей цёпла віталі намеснік дырэктара палаца С. Марусалаў, намеснік упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Ул. Ламека, старшыня праўлення Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Я. Сахута, які заадно даў і высокую ацэнку выставе школьных прац па гэтым профілі (пазней ён, старшыня журы, уручыць дыпломы аўтарам лепшых мастацкіх знаходак).***

На гэты раз асноўнай часткай фестывалю быў конкурс «Сувенір у нацыянальных традыцыях». Каманды юных майстроў прадставілі на суд прысутных свае дапаўненні да адзення ў традыцыях розных нацыянальных культур, а таксама далі і свае тлумачэнні да гэтага.

Свята пачалося выступленнем дзіцячага музычнага тэатра «Маленькая опера» і ансамбля народных інструментаў з Эстоніі. Яны паказалі эстонскае галаўное жаночае ўбранне, афармленне пояса, 50 відаў рукавіц, шкарпэткі, панчохі, прадэманстравалі асобныя прадметы, якія рыхтавала да свайго шлюбу эстонская нявеста. Творчая група з Першамайскага, Савецкага раёнаў Мінска, а таксама сярэдніх школ №№ 200, 41 і Міжнароднае таварыства аб'яднання казахаў прыцягнулі ўвагу да фальклорных матываў і макрамэ ў казахскім народным асэнсаванні. Іншыя школьныя ўстановы падкрэслілі асаблівасці афганскіх і азербайджанскіх макрамэ, бісеру, аздабленне карэльскага і малдаўскага касцюмаў, турэцкага рукадзелля, цыганскага вопраткавага ладу, асецінскіх і латышскіх старажытных нацыянальных строяў і ўбораў. Ва ўсіх гэтых дэманстрацыях актыўны і шчыры ўдзел прымалі навучэнцы-беларусы.

Прыемна адзначыць, што парадавалі юныя майстры з Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі ўзорамі свайго мадэльерства і вышыўкі, з Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Партызанскага раёна – вырабамі дызайну, Цэнтра пазашкольнай работы Цэнтральнага раёна – распрацоўкамі моды на фальклорнай аснове, з Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Фрунзенскага раёна – бісеру і мазаікі. Палац моладзі і школьнікаў Завадскога раёна ўсцешыў вырабамі з саломкі, а Цэнтр пазашкольнай работы Ленінскага раёна – рознымі дапаўненнямі да беларускай вопраткі. Многіх зацікавіла дэманстрацыя разнастайных (па канструкцыі, па колеравым вырашэнні з улікам нацыянальных набыткаў) калекцый адзення «Дзіцячая мода» Мінскага дзяржаўнага палаца дзяцей і моладзі.

З тых мінскіх гуртаў, хто беларускі каларыт суправаджаў народнымі песнямі і танцамі, хораша вызначыўся фальклорны калектыў «Міла-віца» з Цэнтра пазашкольнай работы «Ветразь» Кастрычніцкага раёна г. Мінска. Ім годную канкурэнцыю (па спеўчых здольнасцях, выяве мілагучнасці беларускай мовы) здолела стварыць, бадай, толькі Дара Савінава з... Таліна. Многім бы нашым яе калегам-навучэнцам (і тым, хто пакутаваў прамаўляць па-беларуску) вось бы так авалодаць... роднай мовай, як госця асвоіла яе ў Эстоніі!

Фестываль нацыянальных культур «Сонечны птах» закончыўся ў выставачнай зале, дзе былі падведзены вынікі двух конкурсаў. Старшыня праўлення саюза майстроў народнай творчасці Яўген Сахута ўручыў дыпломы лаўрэатам выставы «Традыцыі і сучаснасць», а пісьменнік, намеснік галоўнага рэдактара «КГ» Генрых Далідовіч – адпаведныя ўзнагароды і сувеніры ад музея Якуба Коласа пераможцам конкурсу на лепшую даследчыцкую, творчую працу, прысвечаную 125-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гран-пры літаратурнага конкурсу з 30 вылучаных прац атрымалі навучэнка 11 класа гімназіі № 2 з Вілейкі Бажэна Мацюк і яе выкладчык В.В. Кажура за «самастойнасць і арыгінальнасць у распрацоўцы тэмы і за мастацкае яе вырашэнне». А тэма іх не столькі новая, колькі вечная: легенды і паданні Вілейшчыны ў паэтычнай апрацоўцы аўтараў. Апрацоўка ўдалася прафесійнай. «КГ» мяркуе пазнаёміць чытачоў з асобнымі творамі гэтых аўтараў.

***Уладзіслаў ЛУКАШЭВІЧ***

## На тым тыдні...

● **29 лістапада** ўдзельнікі семінара бібліятэкараў у Беразіно (усяго прадстаўлена 24 бібліятэкі) сустрэліся з пісьменнікам, намеснікам галоўнага рэдактара «КГ» Генрыхам Далідовічам. На сустрэчу завіталі і выкладчыкі школ розных профіляў, а таксама ўсе ахвочыя.

Гаспадары, супрацоўнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі наладзілі госцю, земляку Якуба Коласа, выставу з яго кніг, а таксама па-свойму прадставілі ягоную творчасць. Г. Далідовіч расказаў пра свае шляхі ў літаратуру, пра свае спазнанне класікаў, у тым ліку і беларускіх, пра асвятленне «КГ» 125-гадовых юбілеяў Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Госцю былі зададзеныя шматлікія пытанні, на якія пісьменнік даў адказы.

● На тым тыдні ў Мінску пачалася выстаўка працаў навучэнцаў Нацыянальнай мастацкай школы імя Чурлёніса (Літва). Экспазіцыя працуе ў мінскім каледжы мастацтваў.

● Шмат якія падзеі на тым тыдні прайшлі «пад зоркай» Максіма Багдановіча.

**7 снежня** літаратурна-музычная вечарына «І свеціцца зорнае слова Максіма» прайшла ў Літаратурным музеі класіка з удзелам пісьменнікаў Віктара Шніпа, Генрыха Далідовіча, Васіля Жуковіча, перакладчыка Валерыя Стралко. У вянок Багдановіча дадалося і віншаванне дзіцячага фальклорнага калектыву «Ветразь».

**8 снежня** Інстытут нямецкіх даследаванняў і Літаратурны музей Багдановіча ў межах працы суполкі «biblioteca albaruthenica classica» Літаратурнай кавярні правялі вечарыну з нагоды дня нараджэння паэта ў Мінскім міжнародным адукацыйным цэнтры.

● **9 снежня а 12 гадзіне** «КГ» разам з Літаратурным музеем класіка запрашае на ўскладанне кветак да помніка Максіму Багдановічу (каля опернага тэатра), у якім будуць прымаць удзел пісьменнікі, навукоўцы і ўсе прыхільнікі творчасці выдатнага паэта.

## «Максім Багдановіч і яго эпоха»

***Так называлася Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя, што нядаўна адбылася ў Літаратурным музеі выдатнага беларускага паэта. Пры адкрыцці дырэктарка ўстановы Таццяна Шэлягович нагадала ўсім, што прысутныя сабраліся тут не толькі з-за глыбокай павагі да класіка беларускай літаратуры: сёлета споўнілася 100 гадоў, калі ён, 16-гадовы, з Расіі даслаў празаічную, яшчэ вельмі вучнёўскую сімвал-казку-легенду «Музыка» ў «Нашую Ніву», і твор быў надрукаваны. Беларускі геній пачаў свае нялёгкае, але годнае шэсце ў літаратуру.***

Вядомы мастак Эдуард Агуновіч, які нямала сваіх твораў прысвяціў М. Багдановічу, зазначыў, што беларускі народ можа ганарыцца, што ў яго быў, ёсць такі сын. Ён у зусім юным узросце падкрэсліў неўміручую для кожнага паэта ідэю: у яго павінна быць разуменне Маці Божай, маці-краіны. Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп нагадаў прысутным, як у свой час Міністэрства культуры, грамадскасць рыхтаваліся адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння М. Багдановіча, як шукалі сродкі і спосабы перавезці прах паэта з Ялты ў Мінск і як намагаліся ўвекавечыць тыя мясціны ў Расіі, дзе ён жыў, фізічна рос і творча сталеў. Не лішне будзе зазначыць, што Э. Агуновіч і Ул. Гілеп (як і пазнейшыя выступоўцы) не толькі сказалі добрае слова, але зрабілі падарункі музею: Агуновіч – адну са сваіх карцін, Гілеп – падборку дакументаў па ўшанаванні памяці паэта.

Дарэчы, Ул. Гілеп перасцярог ад даўняй небяспекі: у сувязі з рэканструкцыяй опернага тэатра зноў выцягнуць на белы свет прапанову, каб помнік М. Багдановічу перанесці ў іншае, нібыта больш апраўданае месца. Было па-свойму эмацыянальнае слова і госці з Крыма Дзіны Шаўчэнка, якая расказала, як яны шануюць памяць нашага земляка там, дзе ён некалі, у далёкім 1917-м, адчуваючы сваю смерць, папрасіў самых ранніх зямных ягадак – сунічак, і памёр. Дык вось госця папрасіла знаходзіць сродкі, каб наступную навуковую канферэнцыю, прысвечаную М. Багдановічу, правесці ў Ялце.

Пасля гэтага адбыліся пленарнае пасяджэннее і выступленні ў дзвюх секцыях, дзе не адзін дзесятак вучоных гістарычнага, літаратуразнаўчага і мовазнаўчага накірункаў з розных мясцін краіны і з-за мяжы сабраліся разам, каб асэнсаваць усебаковую творчасць М. Багдановіча і панамагацца выдаць самыя новыя даследаванні асобным аб'яднаным выданнем. На міжнароднай канферэнцыі прысутнічаў і на заключным вучоным «круглым стале» выступіў намеснік галоўнага рэдактара «КГ» Генрых Далідовіч.

***Наш кар.***





*Выступаюць В. Рагойша і Ул. Конан*

*Фотаздымкі прадстаўлены музеем М. Багдановіча*

## Польскі пісьменнік – наш зямляк



27 лістапада ў Доме дружбы, а 28 лістапада – у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна прайшлі вечарыны-прэзентацыі кнігі польскага пісьменніка, які нарадзіўся на нашай Мёршчыне, Рышарда Курыльчыка «Славянскі світанак» у перакладзе сябра рэдкалегіі «КГ» пісьменніка Анатоля Бутэвіча. Прэзентацыя больш нагадвала сустрэчу пісьменніка і перакладчыка з чытачамі, бо значная колькасць прысутных паспела ўжо прачытаць кнігу альбо пазнаёміцца з яе зместам праз беларускую прэсу, у тым ліку і праз «КГ». Ахвочыя змаглі набыць гэтае выданне і атрымаць аўтографы пісьменнікаў.

Прысутныя і вядучая – паэтка і галоўная рэдактарка часопіса «Маладосць» Раіса Баравікова – падкрэслівалі важнасць перакладу твора Р. Курыльчыка на беларускую мову для шырокага азнаямлення чытачоў з поглядам аўтара на гісторыю паходжання славян.

Вечарыны прайшлі пры вялікім зацікаўленні аўдыторыі творчасцю пісьменніка, гучалі адказы на шматлікія пытанні, зачытваліся ўрыўкі з кнігі па-беларуску і па-польску. Крыху раней прэзентацыя кнігі адбылася ў Цэнтры праваслаўнай культуры Беластока з удзелам прадстаўнікоў беларускай дыяспары, Пасла Рэспублікі Беларусь у Польшчы Паўла Латушкі, адказных супрацоўнікаў Генеральнага консульства Беларусі ў Беластоку.

Застаецца дадаць, што кніга «Славянскі світанак» выйшла ў выдавецтве «Чатыры чвэрці» (дырэктар Л. Анцух), якое мае намер зрабіць дадатковы яе тыраж.

Адказны сакратар «КГ» Уладзімір Пучынскі сустрэўся з Рышардам Курыльчыкам і ўзяў інтэрв'ю, якое мы мяркуем надрукаваць у наступным нумары.

## Свята бібліятэкі № 3 імя У.У. Маякоўскага

«Нам – 75 гадоў!» – так сустракалі гасцей супрацоўнікі бібліятэкі № 3 імя У.У. Маякоўскага ў Дзень адчыненых дзвярэй. У святочна ўбраным холе жыхароў мікрараёна Шабаны, настаўнікаў і вучняў школ № 142 і № 200, а таксама Трасцянецкай сярэдняй школы сустракала вядучы бібліятэкар Марына Антончыкава. Госці мелі цудоўную магчымасць бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй бібліятэкі, з выставамі, падрыхтаванымі да свята. І, трэба сказаць, было на што паглядзець. Асаблівую цікавасць выклікала выстава «Старонкі гісторыі», на якой былі прадстаўлены архіўныя дакументы гісторыі бібліятэкі амаль з 1932 года, фотаздымкі з розных мерапрыемстваў, праведзеных за доўгія гады працы.

Кульмінацыяй свята стала віншавальная гасцёўня «Дом, дзе акрыляецца душа». Бібліятэкары Святлана Краўцова і Жанна Маслякова распачалі вечарыну такімі словамі:

«Сярод розных прафесій – прафесія бібліятэкара адна з самых ганаровых. Выбыў час, калі не было ні бібліятэк, ні кніг, ні чытачоў. І толькі ў перыяд рабаўладальніцкага ладу ў егіпецкіх фараонаў упершыню з`явіліся бібліятэкары – супрацоўнікі "аптэкі для душы". Бібліятэчная справа на тую пору адрознівалася "адсталасцю": уваход у бібліятэку быў аздоблены золатам, а бібліятэкары "па сумяшчальніцтве" былі і пісарамі, за што атрымоўвалі і двайны заробак. З тых часоў шмат чаго змянілася, адно засталося нязменным – бібліятэка для многіх па-ранейшаму з`яўляецца "аптэкай душы"».

Ёсць і іншыя аспекты бібліятэчнай працы. Падлічана, што за год кожнаму супрацоўніку прыходзіцца пераносіць дзесяць-дванаццаць тон кніг. А колькі такту, павагі патрабуе ад бібліятэкара абслугоўванне чытачоў! І наведвальнікі ўдзячныя сваім бібліятэкарам. Шмат добрых слоў прагучала ў адрас працаўнікоў бібліятэкі.

Такім чынам, дзякуючы намаганням супрацоўнікаў бібліятэкі і актыўнаму ўдзелу чытачоў свята прайшло весела, цікава, змястоўна.

У добры шлях, супрацоўнікі «аптэкі для душы»!

***Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ***



### Жарты бібліятэкараў, запісаныя на свяце

*Студент просит библиотекаря:*
*– Мне бы книгу по философии.*
*– Какую?*
*– Да там на обложке голова нарисована!*

*Читатель: «Нам сочинение задали по картине Рожкина «Шиш» (картина Шишкина «Рожь»).*

*– У вас есть книга о дистрофиках?*
*– А это какая?*
*– «Унесенные ветром» называется.*

**Рэзананс**

***У № 31 «КГ» за 2007 год у рубрыцы «Малая краязнаўчая энцыклапедыя» змешчана невялікая нататка пра Гваньіні (1534–1614) – італьянца, які служыў у войску ВКЛ, пакінуў цікавыя ўспаміны пра гісторыю, геаграфію беларускага краю («Хроніка Еўрапейскай Сарматыі», 1581; некаторымі яго земляробчымі назіраннямі, напрыклад, карыстаўся ў сваіх агародных доследах Якуб Колас). Маю працяг гэтай размовы – у прыватнасці, ліставанне з доктарам гістарычных навук, прафесарам Кіева-Магілянскай акадэміі протаіерэем Украінскай Праваслаўнай Царквы Кіеўскага патрыярхату Юрыем Мыцыкам. Дарэчы, вельмі цікавая асоба. Напрыклад, ён каля дзесятка гадоў таму разам з журналістамі, навукоўцамі скалясіў 30 000 кіламетраў па Украіне, а пасля падарожнікі пра свае ўражанні напісалі кнігу «Забутою Україною». Хацелася б чытачоў «КГ» пазнаёміць з урыўкам аднаго ліста шматшаноўнага Ю. Мыцыка.***

***Яўген ЛЕЦКА***

# «З малых каменняў – велічныя гмахі...»

«...Учора атрымаў Ваш ліст, за які дужа ўдзячны (я ўжо хваляваўся, ці дайшла да Вас кніга-хроніка Гваньіні. Вельмі прыемна было пачуць ад Вас (тым больш, што Вы – сапраўдны беларус) пахвалу наконт мною зробленага. Тая праца сапраўды забрала ў мяне дужа багата часу (працаваў над перакладам і даследаваннем помніка звыш сямі гадоў, хоць і з перапынкамі).

Вядома, было б вельмі дарэчы зрабіць беларускі пераклад гэтай хронікі, але, насамрэч, будзе цяжка знайсці грошы на гэтую справу. Вы маеце рацыю, калі зазначаеце, што найперш варта зрабіць скарочанае выданне. У такім разе можна было б выдаць поўнасцю 2-ю (літоўскую частку), у скарочаным выглядзе 1-ю (польскую) і 3-ю (рускую), а з іншых частак узяць асобныя фрагменты, бо там час ад часу вядзецца гаворка пра якіясь беларускія падзеі (напрыклад, у татарскай, маскоўскай, прускай частках). Тады гэта будзе выданне па памерах, як мінімум, меншым утрая... Потым трэба было б даць (магчліва, у скарочаным выглядзе) маю прадмову і, само сабой зразумела, мой скарочаны каментарый. Можна нават абысціся без геаграфічнага і імяннога паказальнікаў. Зразумела, я не прэтэндую ў дадзеным выпадку ні на які ганарар, мне хопіць, каб Вы ўказалі, што я ёсць аўтарам прадмовы і каментарыя, а пра выданні беларускага тэксту хронікі Вы абапіраліся б на маё выданне 2007 года. Было б дарэчы Вам ці камусьці з беларусаў напісаць уласную прадмову, якая б, у прыватнасці, патлумачыла, што беларускае выданне з'яўляецца скарочаным і што засталося па-за ягонымі межамі; сказаць таксама пра значэнне хронік Гваньіні для беларускага чытача і навукоўца найперш...

На мой погляд, Ваша прапазіцыя цалкам рэальная, мяркую, што і Ваша Акадэмія навук падтрымае, тым больш, што мяне там трохі ведаюць. Урэшце, такое выданне, думаю, не выкліча яўнага супраціву Вашых «мастадонтаў», бо там усё ж гаворыцца пра дужа аддаленыя часы.

Наконт польскамоўнага тэкста больш складана. Я магу прывезці ў Рэчыцу для Вас ксеракопію асобніка, на які я абапіраўся (ён быў у Інстытуце літаратуры НАН Украіны, але яго потым укралі)... Але беларуская і польская часткі ў мяне ёсць... Апрача гэтага, арыгіналы хронікі Гваньіні павінны быць у Мінску (архіў, музей). Раю таксама зазірнуць ў «Витебскую старину», бо там Сапуноў надрукаваў па-руску якісьці беларускі фрагмент хронікі.

...Дадаю да гэтага ліста свой артыкул, які пасылаў ужо ў «Краязнаўчую газету», але ён чамусьці туды не трапіў. Прашу яго перадаць у рэдакцыю ці пану Віталю Скалабану... Калі выйдзе, дык прышлю яшчэ адзін артыкул: я калісь у Днепрапятроўску выдаў невядомы беларускі летапіс пра царкоўныя падзеі XVII ст. (я яго знайшоў у Польшчы).

Літаральна некалькі дзён таму вярнуўся з Варшавы, дзе быў міжнародны кніжны кірмаш, і я удзельнічаў у прэзентацыі кніг нашага выдавецтва, у тым ліку і тома Гваньіні, ды выданняў пра галадамор. У гэтым годзе Украіна была ганаровым госцем, і таму ёй адвялі цэлую залу... Беларусь была прадстаўлена невялікім стэндам – 2–3 сталы. Выбар кніг быў невялікі і больш турыстычны (фотаальбомы з краявідамі і інш.) Было там некалькі цікавых пазіцый, найперш у галіне беларускай этнаграфіі. Але добра, што Беларусь была прадстаўлена на гэтым форуме выдаўцоў! Дзіўна, чаму Ваша краіна не прыязджае на штогадовы кірмаш у Львоў (звычайна на пачатку верасня)...

Я планую гэтай восенню пабыць у Рэчыцы на каферэнцыі. У Польшчы я яшчэ ў бібліятэках сядзеў і за некалькі дзён набраў патрэбны мінімум матэрыялаў для свайго выступу: «Юдзіцкія – самы значны шляхецкі род Рэчыцкага краю XVII – сярэдзіны XIX стст.». Тыя Юдзіцкія кіравалі Рэчыцаю і Рэчыншчынаю (улучна з Гомелем) звыш 200 гадоў, а пра іх у Рэчыцы нават не чулі. Мяркую, будзе цікава дадаць некалькі штрыхоў да гісторыі гэтага краю, тым больш, што адна з галін Юдзіцкіх у часы Хмяльніцкага перабралася на Ноўгарад-Северскі край на Украіне.

Не пакідае мяне думка пра выданне зборніка маіх артыкулаў на беларускую тэматыку, а гэта звыш 10 друкаваных аркушаў. Самі разумееце, што справа ўпіраецца ў грошы, але я думаю – неяк праб'ю гэтае выданне. У мінулым годзе наша АН прасіла даць рэкамендацыі наконт даследавання гісторыі Беларусі, я склаў цэлы план, але з таго часу ні слыху, ні дыху. Але надзеі не страчваю. Адзіная карысць з той маўчанкі, што я тым часам пішу новыя артыкулы па гісторыі Беларусі, і ў выніку зборнік будзе большы памерам. Надта напружаны час у маёй сям'і таму, што дачка павінна сёлета прадставіць кандыдацкую дысертацыю, а можа, і абараніцца. Калі дасць Бог і ўсё будзе нармальна, то параю ёй заняцца гісторыяй Беларусі XVII–XIX стст. Гэта будзе наш унёсак у беларусістыку, але з малых каменняў часам выбудоўваюцца велічныя гмахі!..

**А. Юрый Мыцык»**




*А. Юрый Мыцык (першы злева) з аднадумцамі-сябрамі*

**Ад рэдакцыі.** ***Сапраўды, Яўген Лецка перадаў нам артыкул а. Юрыя Мыцыка «Рукапіс беларускага шляхціца першай паловы XVII ст.». Дзякуем і аўтару, і пасрэдніку. Твор цікавы, рыхтуем яго для друку. Яшчэ нам перададзена вышэйназваная краязнаўчая кніга «Забутою Україною», адным з аўтарам якой з'яўляецца і а. Юрый Мыцык.***

# *Кожны край мае тых, хто яго праслаўляе*

***26 лістапада 2007 года спаўнілася 100 гадоў з дня нараджэння Міхаіла Аляксандравіча Скрыпкі. Вядомы беларускі пісьменнік-сатырык нарадзіўся ў в. Месціна Сялібскага сельсавета, што ў Бярэзінскім раёне Мінскай вобласці. Сялібская зямля – сапраўдная скарбніца пісьменніцкіх талентаў. Менавіта яна дала жыццё яшчэ тром беларускім пісьменнікам: Рыгору Няхаю, Якаву Герцовічу і Янку Туміловічу, кожнаму з якіх належыць асобнае места ў літаратуры Беларусі.***

Міхась Скрыпка рана застаўся сіратой і з удзячнасцю ўсё жыццё ўспамінаў дзеда Мацея і дружную працавітую сям'ю цёткі Праскоўі, якія падтрымалі ў дзяцінстве.

Пісаць Міхась пачаў яшчэ ў 1924 годзе, калі вучыўся ў шостым класе Багушэвіцкай семігодкі. У школе працаваў літаратурны гурток (тады ўпершыню адбылася сустрэча будучага пісьменніка з паэтам Паўлюком Трусам), і неўзабаве Міхась выступіў як драматург. Пасля пісьменнік успамінаў: «выйшла з-пад майго пяра, як казалі настаўнікі і мае сябры-гурткоўцы, удалая камедыя "Штукары". Было вырашана паставіць камедыю на школьнай сцэне. А сакратар партячэйкі прапанаваў прадаваць білеты на спектакль, таму што аўтар – сірата, і няёмка неяк, што ён ходзіць у лапцях і дамотканай кашулі. Таму па ўсім мястэчку развесілі афішы з прыпіскай: «Увесь збор на карысць аўтара». Вось такім чынам будучы пісьменнік атрымаў свой першы незвычайны «ганарар».

Скончыўшы ў 1926 годзе Багушэвіцкую семігодку, Міхась паступіў у Рагачоўскі педтэхнікум. Менавіта ў студэнцкія гады адбылося яго знаёмства з многімі будучымі паэтамі: Алесем Жаўруком, ЯнкамВаласевічам, Янкам Бандарчыкам. У 1926 годзе малады паэт у якасці дэлегата прымае ўдзел у Бабруйскай акруговай канферэнцыі літаб'яднання «Маладняк», якой кіраваў тады М. Лынькоў.

А ўжо з 1930 года, атрымаўшы званне настаўніка, працуе выкладчыкам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў школах Рагачоўшчыны. Адначасова завочна працягвае адукацыю на рускім аддзяленні літаратурнага факультэта Мінскага педінстытута. У гэты час у Рагачоўскай газеце «Камунар» былі надрукаваны першыя творы Міхася Скрыпкі. Гэта былі вершы, прысвечаныя калгаснай тэматыцы.

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Міхась Скрыпка ўключыўся ў падпольную работу: запісваў паведамленні Савінфармбюро і вывешваў лістоўкі ў людных месцах, збіраў зброю, рыхтаваў моладзь у партызаны, выконваў розныя заданні партызанскага атрада І. Ізоха, які знаходзіўся ў Клічаўскіх лясах. У верасні 1942-га, выходзячы з акружэння, пры пераправе цераз Бярэзіну быў паранены, ноччу трапіў да немцаў. Пасля быў канцлагер Штутгарт. Скрыпка два разы ўцякаў, але абодва разы яго лавілі і вярталі назад. І толькі ў 1944 годзе, калі нашы войскі ўжо былі ў Польшчы, яму разам з групай славянаў удалося ўцячы і далучыцца да сваіх. Да канца вайны Міхась Скрыпка працаваў у органах СМЕРШ у званні старшыні батальёна і займаўся



рэпатрыяцыяй савецкіх людзей і іншаземцаў, якіх вызваляла Савецкая Армія. Пасля вайны, прыехаўшы па справах у Асіповічы, вырашыў застацца тут. Настаўнічаў у Асіповіцкім, Пухавіцкім раёнах, на Магілёўшчыне. З 1961 па 1971 год, працуючы намеснікам дырэктара бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі, арганізаваў тысячы сустрэч пісьменнікаў з чытачамі ва ўсіх кутках Беларусі. Любіў і сам выступаць перад рознымі аўдыторыямі, заўсёды збіраючы поўныя залі.

Менавіта ў пасляваенныя гады Міхаіл Аляксандравіч сур'ёзна заняўся літаратурнай творчасцю і праявіў свой шматгранны талент. Сатырычныя вершы і мініяцюры, байкі і камедыі, гумарэскі і апавяданні – яны і сёння захапляюць і ўзнімаюць настрой. Выдадзены зборнікі твораў Скрыпкі – «Сатыра і гумар», «Сатырычны калаўрот», «Ад смеху не ўцячэш», «Мая хата з краю», «Пад корань», «Усяк бывае...» і інш. Яму належаць зборнікі камедый «Чорт памог» і «Урач-гадалка». У 1963 годзе была пастаўлена кароткаметражная тэлекамедыя «Акадэмік», сцэнарый да якой напісаў Міхась Скрыпка. Не абышоў увагай пісьменнік і дзяцей. Маленькім чытачам адрасаваны кніга апавяданняў «Дзіва ў рэшаце» і зборнік вершаў «Пад смешнай вясёлкай». Вядомы ён і як перакладчык вершаў рускіх і ўкраінскіх паэтаў на беларускую мову, і як паэт-песеннік.

Міхась Аляксандравіч Скрыпка – уладальнік шматлікіх прэмій і ўзнагарод, сярод якіх дзве Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета Беларусі.

Ён плённа працаваў на ніве роднай літаратуры, і гэта помняць і цэняць нашчадкі.

Памёр пісьменнік 8 кастрычніка 1991 года. Пахаваны ў Асіповічах.

Светлы вобраз Міхася Скрыпкі назаўсёды застаўся ў сэрцах тых, хто яго ведаў, і мы па праве ганарымся земляком.

***Вікторыя БАГАДЗЯЖ,***
***бібліёграф Бярэзінскай ЦБС***

***Міхась СКРЫПКА***

## Барсуковы загады

*Як толькі ў лесе стане днець,*
*Барсук у цёплым будане*
*Склікае важныя нарады*
*Ды «прапрацоўвае загады».*

*Загады вешае Барсук*
*На кожны пень, на кожны сук.*
*І што ні слова – бах ды бах!*
*То па рагах, то па зубах:*
*«Казёл не там, дзе трэба, бэкаў;*
*Парсюк – гультай і недарэка.*
*Сава аблаяла Мядзведзя –*
*Саву сурова папярэдзіць».*

*А з будана Барсук ні кроку,*
*Ва ўсім ён слухае Сароку.*
*А што Сарока тая знае,*
*Што толькі плёткі сабірае.*
*Ды ўсё бывае да пары.*
*Аднойчы рана у бары*
*Звяры сышліся на нараду,*
*І страціў той Барсук пасаду.*








# Ляхавіччына і Янка Купала

*Паважаны Уладзімір Гілеп! Дасылаю Вам матэрыял пра краязнаўчы ўрок, прысвечаны Янку Купалу, які прайшоў у Ляхавіцкай цэнтральнай бібліятэцы.*

**Вольга ПЛЯШЭВІЧ**

– Сёння мы пазнаёмімся з малавядомымі старонкамі жыцця Янкі Купалы, звязанымі з гісторыяй Ляхавіччыны.

Янку Купалу лічаць пачынальнікам любоўнай лірыкі. Але каму ён прысвячаў гэтыя вершы?

Паўлінка? Гэты вобраз знаюць ўсе, ён – з п'есы Янкі Купалы. А ці ведаеце вы, хто падараваў сваё імя Купалавай Паўлінцы?

Лічаць, што менавіта з Паўліны Мядзёлкі і для яе быў напісаны аднайменны вобраз неўміручай Купалавай «Паўлінкі».

Нарадзілася Паўліна Мядзёлка ў Будславе ў 1893 годзе, скончыла Вышэйшыя камерцыйныя курсы ў Пецярбургу. Менавіта там у 1913 годзе яна і ўвайшла назаўсёды ў беларускую гісторыю.

Між тым, з Янкам Купалам Паўлінка пазнаёмілася яшчэ раней, у 1908 годзе, у Вільні. Зусім юная, яна прыйшла да знаёмых, а дзверы ёй адчыніў незнаёмы малады мужчына, які стаў жартаваць, пытаць, ці шмат у Вільні прыгожых дзяўчат. Госця, даведаўшыся, што сустрэлася з паэтам Купалам, расчаравалася: *«звычайны хлопец, які вядзе такую несур'ёзную гутарку»*.

Лёс зноў зводзіць Янку Купалу з Паўлінай Мядзёлкай у 1913 годзе, калі беларусы-пецярбуржцы надумалі паставіць купалаўскую «Паўлінку» (1912). Галоўная роля ў п'есе дасталася ёй. Янка Купала праводзіў з ёй рэпетыцыі.

*– Ты што, прыходзіш рэпетыцыю праводзіць са мной, каб вучыць мяне цалавацца? Абыйдуся без тваіх урокаў!*

Ёй, Паўліне Мядзёлцы, Купала прысвячае паэму «Бандароўна». Ёй, другой пасля Марылі Пяледы, Купала напіша верш са словам «доўгачаканай» у назве. Але другая не можа дараваць, што яна – не першая?.. Паспрабаваў Купала пачытаць Паўлінцы ўрыўкі з паэмы «Яна і я»:

*Раем на зямлі выглядываў нам сад,*
*Я ў ім – Адам, яна ў ім – Ева...*

– Я – не Ева, не спакусніца, – што крыўдзіш мяне?!

Ён не хацеў яе крыўдзіць, ён толькі хацеў сказаць, што ён і яна, як першыя ў свеце людзі, першая пара...

Шмат было сустрэч з жанчынамі ў жыцці паэта. Але былі дзве жанчыны, якія змагаліся за Янку. Самі ў сабе, моўчкі, хвалюючыся, тоячыся ад знаёмых і незнаёмых. Адна – Уладзіслава Францаўна Станкевіч, што прыняла руку і сэрца генія, другая – Паўліна Вікенцьеўна Мядзёлка, якая чамусьці адмовіла яму. *«Чаму гэта не Паўлінка мая сынова,* – казала маці Янкі. – *Чаму ж яна яму адмовіла? Як бы я шчасліва была!*

*– Бо дурная была,* – тлумачыць Бянігне Іванаўне паводзіны сваёй дачкі маці Мядзёлкі, – *жартачкі адмовіць такому важнаму чалавеку, як Ваш сын...»*

У які дзень, у які вечар Купала прызнаўся Мядзёлцы ў сваіх пачуццях і намерах, мы не ведаем. Паўлінка ж ўвогуле ўтаіла тое, што гэта ёй Купала *«прапанаваў падзяліць з ім долю і нядолю ў жыцці»*.

*«Адной з нашых дзяўчат,* – напісала яна, – *прапанаваў паэт гэта, а калі тая адмовілася, прызнаўшыся, што кахае другога, на другі дзень ён, сумны, даў ёй прачытаць свой верш, напісаны ў гэтую ж ноч»:*

*Сыду са сцежкі я тваёй,*
*Як цень з няведамага краю,*
*Хоць і не вырву ўжо з грудзей*
*Таго, з чым жыцці сіл не маю.*

*(Заканчэнне будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–45)*

Пабываў у Маскве, Смаленску, удзельнічаў у рабоце першых пісьменніцкіх з'ездаў БССР і СССР; 19 жніўня ў Маскве быў старшынём ранішняга пасяджэння, даваў інтэрв'ю розным выданням. Напісаў некалькі новых вершаў, выдаў у Маскве «Избранные стихи», а ў Мінску – паэму «Над ракою Арэсай» (2-ое выданне).

*1935 год.* У студзені чарговы крытык знаходзіць новыя Купалавы «памылкі» – на гэты раз адшукваюцца «буржуазна-нацыяналістычныя погляды» ў яго самай савецкай паэме «Над ракою Арэсай». Калі зазірнуць у тую пісаніну, то там не знойдзеш ніякага навуковага аналізу твора, яна – фактычна палітычны данос. Ды... Не ўратаваўся такім чынам даносліві крытык, неўзабаве і сам апынуўся за кратамі. У лютым і сакавіку Я. Купала наведаў Маскву (XII Усесаюзны з'езд Саветаў, II пленум праўлення ССП СССР), у сакавіку – Харкаў, дзе ўдзельнічаў у адкрыцці помніка Т. Шаўчэнку, у красавіку – у прыдняпроўскіх Ляўках, каб, аблюбаваўшы гэтыя мясціны, пазней наладзіць тут сваё лецішча. У маі цёпла сустракае грузінскіх пісьменнікаў, адзначае 30-годдзе літаратурнай дзейнасці. У чэрвені-жніўні адпачывае ў Ляўках, дзе стварае так званы ляўкоўскі цыкл вершаў («Сыны», «Старыя акопы», «Беларусі ардэнаноснай», «Вечарынка», «Хлопчык і лётчык» (любімы верш Ю. Гагарына), «Алеся», «Госці» і інш.), што пазней было ацэнена як самае вялікае творчае дасягненне і Купалы, і ўсёй тагачаснай беларускай літаратуры. Як вядома, адзін з вершаў, «Лён», быў перакладзены і прапанаваны газеце «Правда», дык вось на палях рукапісу перакладу М. Горкі пазначыў: «Славно. А.П.» (у «Правде» будуць апублікаваны і іншыя Купалавы вершы, у тым ліку «Хлопчык і лётчык», хоць гэта не пазамінала ёй 27 ліпеня змясціць артыкул беларускага крытыка Я. Бранштэйна, дзе той паўтарыў свае выпады супраць паэта ўсесаюзнай вядомасці). У кожнай рэспубліцы тагачаснага СССР Купала – адзін з тых беларускіх паэтаў, каго перакладаюць і друкуюць найчасцей і найбольш. У кастрычніку па адобраным спісе Палітбюро ЦК ВКП(б) Купала зноў мае магчымасць наведаць Чэхаславакію (у складзе дэлегацыі былі А. Талстой, А. Фадзееў і інш.), дзе яго з калегамі прыняў міністр замежных спраў краіны. Купала там актыўна выступае, у гонар яго прыезду многія чэшскія выданні надрукавалі пераклады ягоных твораў. Пасля вяртання ў Мінск Купалу чакаюць юбілейныя ўрачыстасці ў сувязі з 30-годдзем літаратурнай дзейнасці (урачысты вечар адбыўся ў Купалавай хаце, трансляваўся па радыё). Быў вялікі літаратурны вечар і ў БДТ-1, дзе юбіляра віталі кіраўнікі ўрада, вядомыя савецкія пісьменнікі, М. Горкі («Сердечный привет неутомимому соратнику, поэту-революционеру»). У знак павагі і падзякі ўрад БССР узнагародзіў Купалу машынай, а ў Ляўках (за 28 км ад Оршы) вырашыў пабудаваць яму дачу. Урачыстасці працягваюцца ўвесь снежань у розных кутках Беларусі. У газеце «Звязда» юбіляр дзякуе ўсім за віншаванні, прызнаецца, што шчаслівы жыць у вялікую стваральную эпоху.

# Пра дзядзьку Янку і цёцю Уладзю

*(Заканчэнне. Пачатак у № 45)*

Глыбока паважалі яго і механізатары. Помніцца адзін з эпізодаў, калі, будучы на Барысаўшчыне, у Прыямінскую МТС завітаў і Купала. Яго цёпла сустрэлі дырэктар Давыдоўскі і тата. На полі высокі госць быў нямала ўражаны: за рулём аднаго з трактароў ХТЗ... сядзела дзяўчына, арала і спявала. «Наша Паша Ангеліна!» – пахваліўся і пахваліў трактарыстку дырэктар. У размове з ёй Купала высветліў, што яна – Таня Калячонак, пасля заканчэння курсаў (дзе выкладаў і мой тата) з 1934-га працуе нароўні з мужчынамі. Уражаны Купала шырока расказваў пра маладую гераіню часу і прысвяціў ёй верш «Песня трактарысткі»...

...Я ўжо не памятаю, колькі часу мы паўзлі-дабіраліся тым цягніком. Толькі ніколі не забыць тых і радасці, што мы дома, што нас сардэчна сустракаюць Купалава сястра Ганна, удава Уладзіслава Францаўна, мая сястра Уладзя, і засмучэнняў, напат пакут, што Беларусь ляжыць у руінах. Цёця Уладзя сказала цвёрда: «Жыць будзеце ў мяне. Хоць цесна, ды неяк змесцімся» (у яе тады было два пакойчыкі ў кватэры № 70 на Савецкай, 42. Цяпер таго трохпавярховага цаглянага дома, дзе зараз Мінскі паштамт, няма). Суседзямі па доме былі некаторыя члены ўрада, артысты Барыс Платонаў і Ірына Ждановіч.

У цёці Уладзі не было дзяцей, дык яна маю Жанку сустрэла як сваю дачку (яна за абедзенным сталом сядзела побач з шаноўнай гаспадыняй і спала ў яе пакоі). Паколькі цёця Уладзя з 1944-га аддавала шмат увагі разгортванню дзейнасці Купалавага музея, праводзіла шмат розных паездак і сустрэч, то хатнімі справамі займалася мая мама. Тым больш, што гаспадыню любілі наведваць П. Броўка, М. Лынькоў, П. Глебка, М. Лужанін, П. Панчанка і іншыя, якія тут мелі заўсёды цёплы прыём. Як і да вайны.

...Цяжка было бачыць Мінск. Мы хадзілі сярод мноства руінаў і ўспаміналі, дзе і што было да вайны – якія дом ці школа, будынак саюза пісьменнікаў, творчыя майстэрні мастакоў, Купалаў дом на вуліцы Кастрычніцкай, 40... Аказваецца, на сядзібе апошняй быў агароджаны лагер для ваеннапалонных немцаў (абгарэлая Купалава таполя была нібыта ахаваная асобным плоцікам; яна рухнула ў 1970-я ад моцнага ветру; праўда, пасля вайны цёця Уладзя адсадзіла ад яе парастак, што з цягам часу вырас у магутнае дрэва, якое закрывае акно цяперашняга музея). А што ўвогуле да Кастрычніцкай вуліцы, то тады яе сведкамі засталіся толькі трансфарматарная будка і лазня.

...Літаратурны музей Янкі Купалы быў заснаваны 25 мая 1944 года. Па маім прыездзе ў Мінск там ужо, апрача цёці Уладзі, працавала некалькі супрацоўнікаў. Сярод іх быў і малады Янка Брыль. Сам музей тады размяшчаўся ў двух пакоях Дома прафсаюзаў на плошчы Свабоды, 23. Хтосьці з супрацоўнікаў ствараў там выставу, прысвечаную жыццю і творчасці Купалы, а некаторыя, В. Таўлай, Алеся Александровіч, працавалі на кватэры Уладзіславы Францаўны. Мне хораша запомніўся заходнебеларускі рэвалюцыянер і паэт Таўлай, які падміаўся па лесвіцы і ветліва прывячаў: «Добры дзянёчак», хоць надвор'е магло быць халоднае. На жаль, ён заўчасна памёр.


*На месцы загінулай таполі (1965 г.)*

У 1950-м музей перабраўся ў двухпавярховы будынак з цокалем па вуліцы Энгельса (у двары дома быў пабудаваны і гараж для Купалавага «Шэўрале», які, вярнуўшыся з фронту, з Масквы ў Мінск дабавіў мой муж Казімір Каспаровіч). Пазней было вырашана будаваць музей на месцы дома, дзе з 1927-га па 1941-ты жыў Купала з жонкай і раднёй. Цяперашні музей мае чатыры філіялы: Вязынка, Яхімоўшчына, Акопы, Ляўкі – мясціны, што блізка і цесна звязаныя з жыццём і творчасцю народнага паэта. Тут ім напісана шмат твораў рознага жанру, якія сталі не толькі беларускай класікай.

**Ядвіга РАМАНОЎСКАЯ**

**Ад рэдакцыі.** *Арыгінал успамінаў Ядвігі Юльянаўны Раманоўскай знаходзіцца ў Купалавым музеі. Шчыра дзякуем за яе згоду надрукаваць варыянт іх менавіта ў «Краязнаўчай газеце». Цёпла дзякуем і загадчыцы фонда гэтага музея Марыі Кандратаўне Чабатарэвіч, якая паспрыяла зрабіць гэтую публікацыю.*

*Фотаздымкі да публікацыі прадастаўлены музеем Я. Купалы*





# Якуб Колас
## як пісьменнік-анімаліст



Я. Колас і Я. Купала ў прэзідыўме XII з'езда камсамола Беларусі (1939 г.)

***Мастацкая анімалістыка (адлюстраванне жывёл у творчасці. – Тут і далей тлумачэнне рэдакцыі. – «КГ») у беларускай літаратуры мае багатую гісторыю. Карані яе ўзыходзяць да старажытных часоў, калі чалавек добра адчуваў сваё адзінства з навакольным светам. Жывёлы на пачатковай стадыі развіцця чалавецтва набылі ў духоўным жыцці першаступеннае значэнне. Іх лічылі святымі і змяшчалі на версе іерархічнай лесвіцы, ад іх меркавалі паходжанне калектыву: уяўлялі жывёл як асобую іпастась чалавека. Цяжка пераацаніць ролю анімалістычных міфаў у раскрыцці самасвядомасці чалавека. Татэмізм (даўняя вера ў звышнатуральную сілу жывёл і раслін), фетышызм (рэлігійнае пакланенне чамунебудзь) – за гэтымі з'явамі стаяць старадаўнія народныя традыцыі. Татэмічныя міфы складаюць як бы свяшчэнную гісторыю народа – гэты тэзіс ставяць у сваіх працах Э. Тэйлар, Е. Мяляцінскі, Т. Шамякіна і інш.***

Водгукі традыцый мінулых часоў захаваліся ў творах мастацтва, літаратуры, дайшоўшы і да нашых часоў. Даследчык літаратуры М. Эпштэйн піша: «Анімалізм як творча адказныя адносіны чалавека да жывёльнага свету – адзін з найважнейшых сродкаў пашырэння сучаснага гуманізму, які выходзіць з наіўнай стадыі «абагаўлення» чалавека – да сталага супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння з усімі формамі жыцця на зямлі».

Багатым калейдаскопам вобразаў, сімвалаў, параўнанняў, алегорый прадстаўлена мастацкая анімалістыка ў творах вуснай народнай творчасці, працягвае традыцыі ў лепшых помніках старажытнай літаратуры («Слова пра паход Ігаравы», «Песня пра зубра» М. Гусоўскага). Шырока прысутнічае анімалізм у літаратуры XX стагоддзя. Да яго ў сваёй творчасці звярталіся такія класікі беларускай літаратуры, як Цётка, Янка Купала, Кузьма Чорны, Максім Танк, Якуб Колас і інш.

Свет фаўны, які паўстае са старонак коласаўскіх твораў, шматлікі і разнастайны. Анімалістычныя вобразы прадстаўлены наступнымі тыпамі: жывёлы – рэаліі прыроды (ваўкі, совы, вароны), жывёлы – рэаліі дамашняга або іншага побыту (коні, сабакі, каровы), алегарычныя вобразы (страказа), вобразы-сімвалы (крумкач – сімвал мудрасці) і г.д. Анімалістычныя вобразы як рэаліі прыроды, элементы пейзажу паўстаюць у апавяданні «Чорт»: «Ціха было ў густым бары; закрычала ўнізе цемната. У Белых крыніцах нудна пераклікаліся совы. Далёка-далёка, як з-пад зямлі, даносіўся сабачы брэх».

Іншы тып анімалістычных вобразаў прадстаўляюць пчолы ў апавяданні «Калода пчол». Наяўнасць іх ва ўласнай гаспадарцы здаўна лічылася паказчыкам дабрабыту, пчолы сімвалізавалі добра ўладкаваную гаспадарку. Дарэчы, самі гэтыя істоты не фігуруюць у апавяданні. Рэцыпіент успрымае гэты вобраз з гутаркі трох гаспадароў, што надумаліся купіць калоду пчол у агульную гаспадарку. Бытавая сцэна, якая разгортваецца вакол набыцця пчалінага вулея, у творы напоўнена добрым гумарам.

Адным з важных дасягненняў мастацкай анімалістыкі з'яўляецца псіхалагізацыя вобразаў жывёл – анімалістычны псіхалагізм. У творах Якуба Коласа нярэдка жывёла падаецца як істота, якая можа разважаць, думаць і нават гаварыць: «Купіць, не купіць, а патаргавацца можна», – так, мусібыць, разважаў Міколаў конь («Знайшлі»). «І ўжо яго конік сам ведае: ледзь толькі пачне змяркацца, ён не чакае, пакуль Мікола будзе тузаць яго лейцамі і паддаваць ахвоты пугай, а сам, пырнуўшы для смеласці, выгінае сваю худую шыю з куртатай грывай і борзда драбязіць таўсматымі ножкамі» («Трывога»).

У коласаўскіх творах пейзаж, бытавыя сцэны, якія ўключаюць у сябе вобразы жывёльнага свету, паўстаюць не толькі фонам, на якім разгортваюцца падзеі, дыялогі, – у некаторых творах анімалістычныя вобразы выконваюць самастойную функцыю, г.зн. самі з'яўляюцца ўдзельнікамі падзей. Празаік стварае вялікае кола анімалістычных вобразаў у сваім зборніку «Казкі жыцця». У ім найбольш яскрава праявіўся глыбокі талент Якуба Коласа як пісьменніка-анімаліста. Анімалістычныя вобразы-сімвалы, вобраз-алегорыі дазволілі аўтару ярка паказаць сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы сучаснага пісьменніку грамадства. Яго «Казкі жыцця» ўвасабляюць філасофію прыроды, багаты змест жыцця яе насельнікаў. Сам жанр (жанравыя мадыфікацыі (алегарычныя навелы, прытчы, навелістычныя казкі) «Казак жыцця» дае магчымасць глыбей зразумець спецыфіку аўтарскага выкарыстання вобразаў фауны. Калі мы звернемся да гісторыі анімалістычных уяўленняў, то заўважым, што развіццё жывёльнага эпасу ўключае тры этапы: казкі пра жывёл, прытчы і байкі. Многія творы са зборніка «Казкі жыцця» з боку жанравых мадыфікацый блізкія да гэтых сталых і самых развітых форм мастацкай анімалістыкі – казак і прытчаў.



Ілюстрацыя В. Шаранговіча да «Новай зямлі» на трох мовах



Што датычыцца зместу твораў, то трэба адзначыць, што выбар прадстаўнікоў жывёльнага свету ў зборніку заўсёды не выпадковы, мае сваю матывіроўку і абапіраецца на фальклорна-казачную і літаратурную традыцыі.

У апавяданні «Як птушкі дуб ратавалі» птушыны свет паказаны з двух бакоў. Адны птушкі ўвасабляюць сабой усё цёмнае, ганебнае, яны пагаджаюцца з гібеллю дуба. Другія жадаюць выратаваць дуб. Якуб Колас у выбары прадстаўнікоў добрых і злых сіл прытрымліваецца славянскай фальклорнай традыцыі, паводле якой станоўчымі анімалістычнымі персанажамі з'яўляюцца голуб, бусел і г.д., другія ж – сарокі, галкі, вароны – увасабляюць усё дрэннае, нават пачварнае. Невыпадкова тут і выбар дрэва, бо ў фальклорным эпасе славян існуе моцная сувязь птушак з дубам.

Працягваюць маральную тэматыку зборніка мастацкія творы «Гусі» і «Купальскія светлякі». Выкарыстоўваючы алегарычныя вобразы гусей, светлякоў, Якуб Колас разважае пра сэнс жыцця, здольнасці і магчымасці чалавека. У прытчы «Гусі» аўтар асэнсоўвае праблему супрацьстаяння жыццёвым абставінам. Жыццё жывой істоты ўспрымаецца аўтарам не як нешта абстрагаванае ад знешняга асяроддзя, а як частка сусветнага ўладкавання. У пэўных выпадках, павучаецца ў прытчы, можна адкрыць у сабе новыя магчымасці, якія дапамогуць дасягнуць канчатковай мэты: «Маўчы! – сказаў гусак, што вёў усю чараду. – Без змагання і няўдач нічога не даецца на свеце» («Гусі»). Вобразы гусей, якія плывуць да вострава, – алегорыя на такія рысы чалавечага характару, як аптымізм, вера ва ўласныя сілы, саманадзейнасць. Прытча павучае, што толькі таго, хто спрачаецца да канца, не губляе надзеі, чакае поспех.

Пра змаганне за сваё жыццё – апавяданні «Страказа», «Асінае гняздо». І калі ў першым апавяданні маленькая стракозка гіне, бо не здолела супрацьстаяць прыродным стыхіям: «Узышоўшае праз некалькі дзён гарачае сонца ўжо не магло ажывіць зусім акалелую стракозку» («Страказа»), то другі твор мае аптымістычны фінал. У апавяданні «Асінае гняздо» супрацьпастаўлены два тыпы характараў: змагароў за сваё жыццё і песімістаў. Дарэчы, апавяданне «Асінае гняздо» багата на вобразы насякомых – гэта і восы, і пчолы, і камары, і мухі, і мошкі, і шэршні. Скарыстаўшы свае джалы, набраўшыся смеласці, мошкі здолелі супрацьстаяць ненавісным восам. Свет насякомых, які прадстаўлены ў творы, – алегорыя на чалавечае грамадства. У апавяданні станоўча ацэньваецца ўменне лавіравааць сярод жыццёвых абставін, адстойваць свае погляды.

Вобразы жывёл у творах Якуба Коласа паўстаюць не толькі як элементы пейзажных замалёвак, але і маюць алегарычны сэнс, з'яўляюцца ўвасабленнем абагульненых характараў людзей, сацыяльных абставін і сімвалізуюць пэўныя маральныя катэгорыі жыцця.

***Такім чынам, Якуб Колас – глыбокі знаўца жыцця беларускай фаўны. Свет жывёл для яго – увасабленне ідэйна-значных думак і разважанняў пра свет і грамадскае ўладкаванне.***

*Л. БАРАНОЎСКАЯ*
*(Паводле зборніка «Каласавіны», 2002)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–45)*

У лютым актыўна ўдзельнічае ў розных вечарах, прысвечаных 100-годдзю з дня смерці А. Пушкіна, перакладае яго паэму «Палтава», рэдагуе 13-ты том Збору твораў М. Горкага ў перакладзе на беларускую мову, збірае матэрыял для п'есы пра Крычаўскае паўстанне 1740–1744 гадоў, спрабуе нарэшце закончыць паэму «На шляхах волі», разам з Купалам падпісвае зварот-пратэст супраць інтэрвенцыі Германіі ды Італіі ў Іспанію, у сакавіку заклікае належна адзначыць 20-ю гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, а ў красавіку – 5-годдзе пастановы ЦК ВКП(б) «Аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый», падкрэсліваючы, што гэтая пастанова натхніла яго на стварэнне шматлікіх твораў. Праўда, і зазначае: «Мне здаецца, што наша пісьменніцкая праца не так павінна вызначацца колькасцю напісанага, колькі яе якасцю». У чэрвені-жніўні жыве і працуе на аблюбаванай Пухавіччыне, заканчвае п'есу «У пушчах Палесся», задумвае, як і іншыя, напісаць твор на «важную тэму» – аб ролі піянераў у ахове нашых межаў, чакаў выхаду з друку новых выданняў паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка» (не выйшлі). У Маскве на рускай мове пабачылі свет п'есы «У пушчах Палесся» і «Вайна вайне». У вершах крытыкуе ўлады буржуазнай Польшчы, фашызм, разам з іншымі прыступае да вялікай перакладчыцкай работы, спрабуючы надаць жыццё на беларускай мове паэме «Віцязь у тыгравай шкуры» Шата Руставелі, вітае вершамі К. Варашылава як народнага маршала, слаўных савецкіх лётчыкаў, майскія і кастрычніцкія святы.

Сімвалічна ў 1937 годзе загучаў яго верш з простай, але глыбоказначнаю назвай «Я жыву» (гл. № 40 «КГ»). На яго, здаецца, і цяпер не звяртаюць асаблівай увагі. Ды калі ўлічыць, што твор напісаны і надрукаваны менавіта ў вышэйназваны перыяд, то ён робіць вялікае ўражанне: Колас, мабыць, напісаў яго па-за горадам, «па-за шумам жыцця», пабыўшы сам-насам з вечнай прыродай. Ён нічым тут асабліва не здзіўляе, паказвае, як вячэрні «вільготны змрок спаўзае на лугі», «паволі ноч у полагу смугі / Зямлі і неба засціць берагі / І туліцца ў траве знямелага узмежжа», як «вее парнасцю над стомленай палянай», як цяжка «адвесці зрок ад хмар, дзе ўспыхваюць зарніцы».

У вершы Колас здолеў творча зачэрпнуць з таго, што поўніла яго ў час напісання паэм «Новая зямля» і «Сымон-музыка», зноў ярка спалучыць тонкія назіранні за прыродай, душэўнасць і высокамастацкае адлюстраванне тых момантаў, якія паддаюцца ўспрыняццю толькі вялікаму таленту, еднасць чалавечага свету і прыродных сіл, сплаў лірыкі і філасофскай эпікі. Сапраўды, аўтар меў рацыю: у ім, цяпер больш сталым, змушана заідэалагізаваным, жыў і чалавек, і творца, які па-ранейшаму мог, як і ў той прыродзе ў час зарніц: «Як быццам там, у нейкім цёмным дне, / Хтосьці збудзіцца на міг, на свет зірне / Прывабліваым узлётам таямніцы...»

Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ









## Калекцыянерам, і не толькі

### Совы – у клясеры

З'явілася серыя з чатырох марак, прысвечаных нашым крылатым суседзям – совам. На мініяцюры **№ 689** адлюстраваная сава-бярозаўка (па-руску «ястребиная сова»),




**№ 690** – белая сава, **№ 691** – балотная сава, **№ 692** – вераб'іны сычык («воробьиный сыч»). Аўтар марак Аксана Сузько, купоны намаляваў Аляксей Нікалаеўскі, памер марак 26x37 мм. Наклад па 48 300 асобнікаў. Надрукаваныя таксама малымі аркушамі (124x94 мм) – 7 марак і купон. На марках прыменены элементы абароны.

У дзень выхаду на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень». Мастак спецштэмпеля і канверта А. Сузько.

Да выпуску былі падрыхтаваныя паштоўкі з выявамі соваў для картмаксімумаў.

### Збіраем мастацкую галерэю

На марках зноў з'явіліся шэдэўры з Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Гэта працы невядомых мастакоў: партрэт Кшыштафа Весялоўскага (1636 г.) змешчаны на марцы **№ 693**, Грызелі Сапега (1632 г.) – **№ 694**, Аляксандры Марыяны Весялоўскай (1640 г.) – на мініяцюры **№ 695**. Мастацкая аздоба Ігара Бубена. Памер марак 37x52 мм, іх наклад па 20 000 асобнікаў. Друкаваліся малымі аркушамі па 6 марак (2 серыі), ягоны памер 140x138 мм. На марках прыменены элементы абароны. Тыя ж карціны змешчаны на блоку № 57 – маркі маюць **№№ 696, 697 і 698**.

У дзень выхаду на Мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне на канверце «Першы дзень». Мастак спецштэмпеля Яўген Сіманенка, канверта – Ігар Бубен.




*Вялікі дзякуй за дапамогу ў падрыхтоўцы матэрыялаў рубрыкі супрацоўнікам выдавецкага цэнтра «Марка» РУП «Белпошта»*

---

*Інеса БАГДЗЕВІЧ*

## Закляты скарб

***Апавяданне***

*(Заканчэнне. Пачатак у № 45)*

Прыйшоў шукальнік дадому зусім хворы. Ноччу стала яго пячы агнём. Хоча ён падняцца, каб напіцца вады – і падае. Мроіцца яму вялізны кацёл, поўны золата. Мроіцца, што стаў ён магнатам, што едзе ў госці да вялікага князя.

Устаў нараніцы хлопец, як не спаўшы. Слабы, як муха. Напяты, як струна. «Іншыя знойдуць скарб», – шэпча нехта нібыта на вуха. Ледзь не звар'яцеў Раман, чакаючы прыцемку. А тады ўзяў рыдлёўку, сабаку на почапку і падаўся ў лес.

Ідзе ён да знаёмага месца, а сабака ўпарціцца і назад цягне. Гоніць яго Раман наперад, а навокал хутка цямнее. Выбраліся яны нарэшце да паляны з валунамі. І бачыць хлопец: стаяць там людзі. Ніколі ён яшчэ гэтакіх людскіх строяў не бачыў. Жанчыны ў залатых бранзалетах і зерненых пацерках, мужчыны ў шаломах і кальчугах. І ўсе маркотныя.

– Навошта ты падняў нас, Раманка? Што ты надумаў рабіць, га? – пытае адна дзяўчына. Прыгажосці яна чароўнай. Пякнейшая і за Францішку, як зорка. І забыўся тут хлопец на нявесту, на скарб і на ўсё на свеце. Душу б аддаў за такую.

Маўчыць ён і не ведае, што сказаць. Пашукаў вачамі сабаку, толькі далёка той. Гоніцца за трыма сучкамі – адной шэрай і дзвюма чорнымі. А сучкі тыя празрыстыя, як туман...

Спалохаўся Раман. Уцёк бы, толькі куды – не ведае. Сцямрэла да сажы. Ніводнай сцежкі і не разабраць. Падняў ён вочы на дзяўчыну. А тая глядзіць, як у палонку зацягвае. Так і вабіць, так і кліча да пяшчот. Не вытрымаў хлопец – кінуўся да яе з пацалункамі. І рассыпалася прыгажуня ў ягоных абдымках на попел. Здрыгануўся Раман ад жаху – і самлеў.

Толькі праз тыдзень знайшлі яго паляўнічыя. Ляжаў хлопец пад ружовым валуном ужо нежывы. А на правай руцэ зіхацеў заручальны пярсцёнак. Так і ззяў золатам.

*г. Заслаўе*



*Малюнак Людмілы КАЦЭРЫ*

---

***Арсен ЛІС***




*Мы цярпліва дзён лепшых чакалі,*
*Волі нашай збліжаецца час.*

***Станіслаў Шыманоўскі***

***Калі спазнаеш жыццёвы і творчы лёс паэта Станіслава Шыманоўскага, родам з надвілійскай вёскі Данюшава, што на Смургоншчыне *, міжволі прыходзіць сумны роздум. Колькім жа з людзей не дала раскрыць крыл, праявіць сваёй чалавечай, беларускай існасці наша мачыха-гісторыя. Колькі з іх з узвышанай душой, парывамі да святла, грамадскай справы дачасна сыйшло ў магілу. Маладых, у росквіце сіл, задушаных сацыяльнымі, палітычнымі, грамадскімі нягодамі.***

***На імя Станіслава Шыманоўскага ўпершыню натрапіў у былой перыёдыцы, калі працаваў у віленскіх архівах і спецфондах. У газетах «Беларускае жыццё», «Беларусь», часопісе «Рунь» вершы, пазначаныя гэтым новым, невядомым імем, паказаліся ў 1920 годзе і неяк хутка гэтае імя знікла. Разам, дарэчы, з тымі выданнямі, што выходзілі ў 1919–1920 гадах у Мінску.***

Праўда, часопісам «Вольная думка», пару нумароў якога выпусціла ў 1929 годзе група студэнтаў Віленскага універсітэта, былі надрукаваны вершы Шыманоўскага «Голад», «Усход сонца», «Браты, нам зорка засвяціла». Але гэта – перадрук ранейшага: радыкальна настроенай моладзі з гуманітарных факультэтаў заімпанавалі грамадзянскія матывы паэзіі Шыманоўскага, і яна яшчэ раз абнародавала вершы дачасна памерлага паэта. Слова пры гэтым, хоць бы ў форме маленькай урэзкі, пра самога Шыманоўскага не было сказана. Ніхто не ведаў пра яго лёс. Па-ранейшаму паэт заставаўся крыху таямнічым незнаёмцам і для мяне. Біяграфічная рыска (пры двух вершах Шыманоўскага, апублікаваных у свой час у «Беларусі», было пазначана месца іх напісання: Беніца, Трабы) давала няшмат. Прызнаюся, гэтыя геаграфічныя каардынаты інтрыгавалі мяне: Беніца і Трабы – заняпалыя мястэчкі маіх родных ваколіц, тут, відаць, блукаў паэт невыпадкова. Мабыць, дзесь тут трэба было шукаць і яго малую радзіму.

Вельмі выразна, дамінантна выступаў вобраз зруйнаванай зямлі, акрэсленай паэтам як «зніштожанай, скрыўджанай». Адзін з вершаў так і названы – «Скрыўджаная зямля». Першыя радкі яго гучаць груваздка, як у народным эпасе, запісаным урывачна, з пропускам слоў:

*На ўсход і на захад, як можа абняць вока,*
*Заросшы травой поле, дзікая сенажаць,*
*Плача вецер і травы высокія шумяць,*
*Зямля-пустыня цягнецца ў свет далёка.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*А хто ж гэту зямлю так знішчыў, зрабаваў,*
*Ці тут шумеў патоп, ці Бог яе пракляў,*
*Ці на шырокіх нівах хлеба не радзіла?*
*Не! Тут праз доўгі час людская цякла кроў,*
*З жалезам і агнём тут брат на брата йшоў,*
*І сіла цёмная крыўду зямлі зрабіла.*

Прызнацца, адразу перапісаўшы гэтыя цяжкаватыя на ўспрыманне строфы, задумаўся: ці варта з іх пачынаць знаёмства чытача са словам паэта? Перабіўчаты рытм, глухаватыя асобныя радкі, праўда, нагадвалі такі агульны малюнак адноўленай у вершы рэчаіснасці – перааранай снарадамі, траншэямі, пакінутай чалавекам зямлі. І гэта стрымлівала ад таго, каб адразу апусціць верш. Адначасна міжволі прымушала хутчэй прывесці такі твор Шыманоўскага, што засведчыў бы пра яго паэтычныя мажлівасці. Такім здаўся мне на пачатку верш, названы «Усход сонца»:

***(Працяг на стар. 8)***

---

Газетны варыянт.

* Пакідаю народную назву замест спаланізаванай «Smórgoń».



(Працяг. Пачатак на стар. 7)

*На сіні нябесны прастор*
*Усходзе бляк сонца крывавы:*
*Чырвона асвечаны бор*
*І поле, і дзікія травы.*
*І беднае наша сяло*
*У чырвонае памалявана, –*
*Сонца на небе ўзышло*
*З-за сініх аблок і тумана.*
*Таксама над нашай зямлёй,*
*Зніштожанай, скрыўджанай многа,*
*Абмытай слязьмі і крывёй*
*Узыйдзе дзень міру святога.*
*На полі хлеб будзе радзіць,*
*Асвеціць людзей свет навукі,*
*І будуць свабоднымі жыць*
*Нашы унукі, праўнукі.*

Вядома, быў гэта ў пэўным сэнсе пачаткоўскі верш, са слядамі вучобы ў айчыннай паэзіі. Але нельга адмовіць яму і ў сваёй паэтычнай палітры, энергічным рытме, які паракдаваў стройныя радкі. Псіхалагічна апраўданы ў паэта эпітэт «крывавы» ў дачыненні да бляску сонца: ён арганічна асацыіруецца з агульным малюнкам «абмытай слязьмі і крывёю» зямлі. Асабістыя перажыванні Ст. Шыманоўскага непасрэдна лучыліся з перажываннямі тысяч людзей, тых жа жыхароў Смургоншчыны, якія вярталіся* на зруйнаваныя сялібы, да родных папялішчаў, зарослых хмызняком гоняў. Невыпадкова прывід голаду, што ўставаў над краем і які, як пазней даведаемся, і выпраўў паэта вандраваць у пошуках хлеба, працы па навакольных мястэчках і вёсках, ён імкнецца асэнсаваць, абагульніць у страхалівым алегарычным вобразе, надаўшы яму антрапалагічныя рысы ў вершы, так і называным «Голад»:

*Худы страшны ён і высокі,*
*Быццам з магілы ўсталы здань-шкілет,*
*У лахманы жабрацкія адзет,*
*Развеяў вецер плашч яго шырокі.*
*Песню віхры яму пяюць хаўтурна,*
*Славіў туман яго густы, як дым,*
*Ваўкі галодныя ўслед ідуць за ім...*
*Дзе пройдзе ён – там мёртва і пахмурна.*
.................................................................
*Праз беларускі ён ідзе абшар,*
*Дзе з даўніх лет пануе здзек, няволя,*
*Дзе для чужых прыблуд хлеб родзіць поле,*
*Яго сядзіба тут, бо ён наш цар.*

У вершы «Дудар», перапыняючы маналог народнага музыкі, паэт больш упэўнена скажа:

*І з цемнаты, з няволі ўскрэсне*
*Мая зямля і мой народ.*

Праз гады мне нарэшце ўдалося крыху даведацца пра лёс Шыманоўскага. Жменьку фактаў з жыцця паэта нечакана знайшоў у Адама Станкевіча, вядомага з даваеннай Заходняй Беларусі палітычнага і рэлігійнага дзеяча, асветніка. Нарадзіўся Шыманоўскі ў Данюшаве ў 1893-м. У час Першай сусветнай вайны трапіў у Петраград, дзе палітычна ўсвядоміўся ў асяроддзі тамтэйшых беларусаў.

Дамоў вярнуўся хворы: даліся ў знакі ваенныя ўмовы, жыццёвая неўладкаванасць. Смургоншчына была зруйнавана фронтам, супрацьстаяннем тут на працягу трох гадоў двух імперыялістычных дзяржаў, затым польска-савецкая вайна. У той час, як сусветная грамадскасць памагала моцна пацярпелай ад вайны Бельгіі, ніхто не звяртаў увагі на значна больш зруйнаваную Беларусь. Было безвыходна, цяжка. Шыманоўскі поўнай мерай дзяліў пакуты сваіх землякоў. Хворы на сухоты, каб не памерці з голаду, ён мусіў падацца з роднага Данюшава ў пошуках кавалка хлеба. Пехатой сходзіў у Мінск, занёс у рэдакцыі беларускіх газет свае вершы, але працы для яго там не было. Газеты выпускалі 2–3 энтузіясты, жылі ў беднасці, пра ганарары не было і гаворкі. Вось і вялі сцежкі паэта ў Беніцу, Трабы, дзе можна было, працуючы за адну ежу, неяк трываць. Але гэта былі ўмовы не для хворага паэта, і летам 1920 года, калі яшчэ каціўся па Беларусі вал польска-савецкай вайны, яго не стала. У газеце «Беларусь» ад 7 мая 1920 года быў надрукаваны яго верш, у якім паэт выкарыстоўвае форму і стылістыку пацераў. Думаю, гэты твор варты анталагічных выданняў беларускай паэзіі.

*Ад вайны братняй, што громам нас трывожа,*
*Збаў нас, Божа!*
*І ад прарока, што згубу нам варожа,*
*Збаў нас, Божа!*
*Ад бур, што градам б'юць у полі збожжа,*
*Збаў нас, Божа!*
*І ад жыцця, каторым жыць народ не можа,*
*Збаў нас, Божа!*
*Ад цёмнай сілы, што наш бедны край ніштожа,*
*Збаў нас, Божа!*
*І ад суседа, што на рукі путы ўзложа,*
*Збаў нас, Божа!*

(Працяг будзе)

* Пасля Першай сусветнай і савецка-польскай войнаў.

## Снежань

**25 – Яфімава (Яўхімава) Маргарыта Барысаўна (1927, Орша), літаратуразнаўца, крытык – 80 гадоў з дня нараджэння.**

**25 – Герлаван Барыс Федасеевіч (1937), тэатральны мастак, педагог, народны мастак Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1985), Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1988), тэатральнай прэміі імя Е. Міровіча (1992), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь – 70 гадоў з дня нараджэння.**

**26 – Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч (1937, Камян. р-н), крытык і літаратуразнавец, акадэмік НАН Беларусі – 70 гадоў з дня нараджэння.**



***У чыстым полі – зіма...***

*Фота Міколы ПІВАВАРА*

## Усё, акрамя халадзільніка

Шмат якія загранні ў дамах адбываюцца праз няправільнае выкарыстанне электрапрыбораў. Таму, каб пазбегчы пажару, кіруйцеся простымі правіламі.

Па-першае, не ўключайце ў сетку адразу некалькі электрапрыбораў вялікай магутнасці, такіх, як тэлевізар, абагравальнік, пыласмок, прас, мікрахвалевая печка. Такі небяспечны «сінтэз» можа прывесці да перагрэву і кароткага замыкання электраправодкі.

Па-другое, не пакідайце без нагляду электрапрыборы.

Па-трэцяе, сыходзячы з дому, выключыце ўсе прыборы, акрамя халадзільніка.

Па-чацвёртае, перад тым, як ісці спаць, пераканайцеся, што ўсе электрапрыборы выключаны з сеткі.

## Калі пажар у пад'ездзе

– неадкладна паведамце ў службу выратавання «101»;

– не выходзьце з кватэры, бо прадукты гарэння дужа таксічныя;

– шчыльна зачыніце ўваходныя дзверы кватэры, каб не прайшоў дым;

– перайдзіце ў той пакой, дзе ёсць балкон, адкуль можна падаваць сігналы аб дапамозе;

– калі ж выпадкам апынуліся ў задымленым пад'ездзе, неадкладна пакіньце яго, дзеля чаго максімальна затрымайце дыханне (ці дыхайце праз адзенне), трымайцеся пры гэтым за поручні ці за сцяну;

– катэгарычна забараняецца карыстацца ліфтам, бо ён можа ў любы момант адключыцца;

– у жылых і грамадскіх будынках з дзесяці і больш паверхаў для эвакуацыі па ўсёй вышыні прадугледжаны незадымляльныя лесвічныя клеткі з пераходам праз паветраную зону, трапіўшы ў якую, вы будзеце ў бяспецы.

**Вольга ЦЫНКЕВІЧ,**
**інспектар ЦРАНС**

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ГЛЫБОКАЕ** – горад, цэнтр Глыбоцкага раёна. За 200 км ад Віцебска. Чыгуначная станцыя на лініі Крулеўшчына–Варапаева, на аўтадарозе Полацк–Вільня. У межах горада азёры Кагальнае і Вялікае. У 1995 г. было 18,4 тысячы насельнікаў. Упершыню ўзгадваецца ў дакументах ў 1414 г. Належала Зяновічам, Корсакам, Радзівілам, Вітгенштэйнам. З XVI ст. мястэчка. Тут у XVI–XVIII стст. быў Глыбоцкі замак, які быў дашчэнту спалены ў 1654-м у час бітвы войскаў ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы. Пазней замак аднаўляўся, але зноў пацярпеў у першыя Паўночнай вайны. У канцы XVI–XVIII стст. заснаваны кальвінскі збор, касцёл св. Міхаіла і Троіцы, Глыбоцкі касцёл і кляштар кармелітаў, царква Троіцы, Ільінская капліца, сінанога. З 1793-га мястэчка Глыбокае ў складзе Дзісенскага павета Віленскага ваяводства, у 1921–1939 гг. у складзе Польшчы, з 1940-га горад.

У Глыбокім ёсць прадпрыемствы харчовай (малочна-кансервавы камбінат, мясакамбінат, кансервавы і камбікормавы заводы і інш.), мясцовай прамысловасці, працуе гісторыка-этнаграфічны музей.

**ГЛЯБОВІЧЫ** – шляхецкі род герба «Ляліва», прадстаўнікі якога ў XV–XVI ст. займалі высокія пасады ў ВКЛ. Асобныя даследчыкі мяркуюць, што іхні род пачаўся ад Гедзіміна, паходзіў са смаленскай (ваявода Глеб) ці полацкай зямлі. Валодалі гарадамі Дуброўна і Заслаўе, мелі маёнткі ў Мазырскім, Ігуменскім, Аршанскім, Навагрудскім паветах, на Смаленшчыне, Віцебшчыне, у Польшчы, мелі палацы ў Вільні і Мінску.

**ГЛЯК** (глёк, ляк, бунька, лагун) – ганчарны выраб, пасудзіна з досыць аб'ёмістым (для ўстойлівасці) дном і вузкай шыйкай з вушкам, часта і з вушкам, для захавання, перавозу-пераносу і кіпячэння вадкіх рэчываў (вада, алей і інш.). Памеры самых розныя, у тым ліку ад цацачных да вялікіх літраў на 10. Па-рознаму аздабляліся і фарбаваліся.

**«ГНЯВАШ»** («Загневаны», «Гнеўка») – беларускі народны танец. Выканаўцы (мужчына і жанчына) ў тэатралізаванай форме паказваюць спрэчку і прымірэнне закаханых. Часта выконваецца песня («Дзяўчына мая заручоная, чаго так ходзіш засмучоная?»).



*Герб «Ляліва»*

**ГОЛАНД Ян Давід** (1746 – пасля 1825) – польскі кампазітар нямецкага паходжання. У 1780–1802 гг. працаваў у Нясвіжы ў Радзівілаў. Сярод твораў вылучаецца аперэта «Агатка» на лібрэта М. Радзівіла, напісаная і ўпершыню пастаўленая ў Нясвіжы. У музыцы шырока выкарыстоўваліся фальклорныя матывы. Вядомыя вадэвіль «Чужое дабро не ідзе на карысць» (1780), кантата (1786, Нясвіж), а таксама сімфоніі, серэнады, паланезы і інш.

**«ГОЛАС БЕЛАРУСА»** – прагрэсіўная газета ў Заходняй Беларусі, што выходзіла на беларускай мове ў 1924 г. Крытычна ацэньвала развіццё буржуазнай Польшчы, спачувала працоўнаму беларускаму люду, клапацілася пра развіццё яго мовы і культуры. Адначала поспехі будаўніцтва ў БССР. Перадрукоўвала новыя творы Я. Купалы, Ц. Гартнага і іншых беларускіх пісьменнікаў. Выдала брашуры Суліміы (У. Самойла) «Які "самаўрад" гатуе беларускаму народу Польская рэспубліка», «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік» З. Верас і інш. Закрыта польскімі ўладамі пасля выхаду 21-га нумара.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 334 61 62. Тэл./факс 334-42-03 E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 06.12.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14).
Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.

Заказ 1469.
Тыраж 1270 асобнікаў.